


## Непрыемны сюрпрыз



*— Вы да мяне сакратаркай?*
*— Так, я ўжо з вашай жонкай дамовілася.*

*(Вожык)*

## Размова

(Жарт)

— «Здароў, Кузьміч!»
— «Здароў, брат!»
— «Скажы: ты слухаў мой даклад?»
— «А як-жа, слухаў, з захапленнем!
Прыйшоў я крыху са спазненнем,
Аднак даслухаў... Толькі ноччу
Не змог ніяк заплюшчыць вочы».
— «Даклад усхваляваў цябе! Я рады!»
— «Не! Выспаўся ў час даклада!».

УЛ. ГРАВАСУД.

## Парадоксы

*Многія чытачы ведаюць беларускую гарчыцу, вострую да слёз, пікантную для тых, хто меры не перабірае.*

*Аднойчы ў рэстаране ў Мінску сядзела двух турыстаў — іншаземцаў. Адзін з іх груба намазаў кусок адбіўнай катлеты, думаючы, што гэта такая самая гарчыца як на захадзе. Вядома, ад таго ў яго адразу пацяклі іншаземныя слёзы.*

*— Чаго ты плачаш? — здзіўлена спытаў спадарожнік.*

*— Успомнілася мне, як мой бацька тапіўся, а я кінуўся ў ваду, хацеў яго выратаваць, але ўжо позна было — з хітрасцю адказаў пацярпеўшы.*

*Нічога не падазраваючы другі турыст таксама накінуўся на гарчыцу аж-но тут і яму пацяклі па твары слёзы.*

*— А ты чаго плачаш? — зларадна спытаў сябра.*

*— Гэта слёзы шчасця. Я плачу з радасці, што ты не ўтапіўся разам з бацькам, — адказала ахвяра беларускай гарчыцы.*

*Нажаль мы не можам падрыхтаваць гэткай гарчыцы, бо гарчыцы ў парашку не прадаюць. У нас яшчэ старыя, даваенныя законы адносна манаполя, якім і гарчыца ў парашку абнята.*

*Аджываючыя распараджэнні і людская дурната з'яўляюцца прычынай таго, што ў нашым жыцці атрымоўваюцца парадоксы.*

*Выпрабляецца ў нас рыбныя кансервы ў тамаце. Наклейкі на банках усялякія, а змест смаку аднолькавы.*

*Кожны ведае, што кансервы дрэнныя але за-то-ж жэсцяныя банкі добрай якасці. Яны зроблены з грубай жэсці, але вось што, нажоў да адкрывання кансерваў у нас не выпрабляюць.*
*Мой знаёмы купіў аднойчы «бычкі» ў тамаце. Ганяўся з гэтымі кансервамі, як кот з прывязаным да хваста пузырам. Зубіла і сякеры мой знаёмы не меў, а слёсарскія майстэрні былі ўжо закрыты.*

*Прыйшоўшы дахаты, знаёмы паклікаў па тэлефону тэхнічную дапамогу з водаправодаў. Калі майстар прыйшоў — знаёмы сказаў: — грамадзянін добры, прабачце, патрывожыў я вас. Вадаправод у мяне ў парадку. Я толькі вельмі хацеў з вамі пазнаёміцца. Маю поўлітроўку і кансервы на закуску.*

*Майстар выцягнуў прылад і ўміг адчыніў кансервы. Выпілі як людзі, ясным стала, што ў жыцці чалавек чалавеку дапамагаць павінен.*

*З парадоксамі мы вельмі часта ў жыцці спатыкаемся і калі выражаем нездаволенасць — то некаторыя скоса на нас глядзяць, быццам-бы абавязкам чалавека было захапляцца нават парадоксамі.*

Дзядзька Лявонь

З народнага

## Жаніцьба

— Ах, я і забыўся, што ажаніўся: падай жонко піць!

. . . . . .

— А што браток, ажаніўся? — Ажаніўся!

— А жонка ёсць? — Ёсць! — А дзеці ёсць? — Ёсць! — Ну, а хлеб ёсць? — ы! (От, людзкэ ажаніўся!).

## Вытлумачыў

— Куме. Як гэта з гэтым тэлеграфам... Як пацісНуць на адным канцы, то гаворыць на другім?

— Гэта, братка, акурат, як з сабакам: пацягні яго ззаду за хвост, а ён табе з пераду забрэша.

## Добры муж

— Што-ж гэта, кабетка, сама рубаеш дровы, ці-ж няма ў хаце мужчыны?

— Не, даражэнькі, ёсць, і вельмі добры нават.

— А што-ж ён робіць?

— Сядзіць на печы, ды плача, што я адна ўсё сама мушу рабіць.

## Не забыла

Адна жанчына расказвае сваёй суседцы.

— Ізноў бачыла ў сне майго нябожчыка мужа...

— Калі вы яшчэ яго раз пабачыце, дык не забудзьце сказаць, што ён мне вінен 20 злотых.

## Прыляцелі гусі

(Беларуская народная песня)




Прыляцелі гусі
З далёкага краю,
Ваду замуцілі
На ціхім Дунаю. 2

Бадай тыя гусі
Так марна прапалі,
Як мы любіліся,
Цяпер перасталі. 2

Як мы любіліся,
Як ластаўкі ў стрэсе,
Цяпер разышліся,
Як сцежанькі ў лесе 2

Як мы любіліся,
Як брат із сястрою,
Цяпер разышліся,
Як сонца з луною. 2

А з цёмнае хмары
Дажджу ды не будзе.
З нашага кахання
Нічога не будзе. 2

На вуліцы камень
Сонца асвяціла.
Кліча маць вячэраць, —
Вячэра не міла. 2

Вячэрай-жа, маці,
Калі наварыла,
Няма міленькага,
Што я палюбіла. 2

Няма міленькага,
Няма маёй душкі,
Каму застануцца
Пуховы падушкі? 2

## Развязка адгаданкі з 27 нумара „Нівы"

«ПЯТРУСЬ БРОЎКА».

Кніжныя ўзнагароды атрымалі:

1) Валя Чэрнякевіч — Масціска, Беластоцкі павет,
2) Ваплаў Будзько — Варшава,
3) Янка Целушэцкі — Новае-Ляўкова, Гайнаўскі павет,
4) Пятро Грыцук — Камінск, Ольштынскае ваяводства,
5) Леанід Ануфрыюк — Паўлы, Бельскі павет,
6) Алесь Мазалеўскі — Хілімоны, Дамброўскі павет,
7) Пятро Харкевіч — Міхнаўка, Гайнаўскі павет,
8) Зося Харкевіч — Лука,
9) Ліда Палаўянюк — Васількоў, Беластоцкі павет,
10) Янка Дарашкевіч — Кэматоўцы, Сакольскі павет.

Узнагароды высылаем поштай. Р.

Галоўны рэдактар ГЕОРГІ ВАЛКАВЫЦКІ

## НЕ ПАВЯЗЛО



*— Маё прывітанне. Прыйшоў я, каханая, наведаць твайго мужа.*



*— Ах, як шкада, што ён выехаў у камандзіроўку. Ну, вып'ем за яго здароўечка!*



*Р-р-р-а-т-у-й-ц-е!!!*



*— Так і ведайце дара жэнькі, што нельга наведваць майго таткі, калі яго няма дома.*

„NIWA" Organ Białoruskiego Towarzystwa Społeczno - Kulturalnego w Białymstoku. Adres redakcji: Białystok, ul. Manifestu Lipcowego 25, tel. 25-89. Warunki prenumeraty: miesięczna — 2.40 zł, kwartalna — 7.20 zł, półroczna 14.40, roczna 28.80. Prenumeratę przyjmują wszystkie urzędy pocztowe i listonosze. Wydawnictwo: RSW „Prasa".
Prenumeratę ze zleceniem wysyłki zagranicę przyjmuje PKWZ „Ruch" Warszawa. Należność wpłacać na konto PKO 1-6-100024 Warszawa. Cena prenumeraty z wysyłką zagranicę wynosi: kwartalnie 10.15 zł, półrocznie 20,30 zł, rocznie 40,60 zł. Druk Białostockie Zakłady Graficzne. Nakład 5.205 T-12